Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 18 Нядзеля, 31 Жніўня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 20 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стар. — 15 гр.
за радок пэтыту: у тэксьце — 10 гр.
на апош. стар.— 5 гр.

## Які-ж выхад?

Одгукі пагранічнага стаўпецкага эпізоду прынялі характар вельмі шырокі.

Ужо адбыўся над'звычайны суд у Навагрудку, які засудзіў трох злоўленых бандытаў насьмерць, датычна двух з іх навет прысуд ужо прыведзены ў выкананьне.

Здавалася-б, што ўжо і ўсёй казцы канец. Аднак пасьледатвы дзікага лёкальнага здарэньня пачынаюць глыбець. Апрача дыплёматычнай перапіскі з Саветамі, Польскі Урад заняўся пакрысе справаю ўрэгуляваньня акраінных адносін.

І гэта саусім ня дзіва! Гэтым заняцца трэ' было ўжо даўно. Але-ж „лепей позна, як ніколі“. Адносіны тутэйшыя завостраны так, што далей чакаць няма чаго. Лякарства трэба шукаць зараз-жа. І да справы трэба падходзіць абдуманна, можа навет крыху й асьцярожна. Туга напятую струну далей перацягваць немагчыма, бо небясьпечна, але-ж і адразу адпусьціць яе даволі рызыкоўна.

Вось перад якімі задачамі стаіць цяпер варшаўскі ўрадовы цэнтр.

Як-жа падыйшоў Урад да загойваньня ўсяе нарваўшае акраінае балячкі?

Падыйшоў ён крыху дыплёматычна, утвараючы ў Варшаве пры Міністэрстве Унутраных Справаў пост віцэ-міністра, спэцыяльнага для акраінных пытаньняў, а з другога боку да пытаньняў гэтых на месцы, гэта знач. у нас тутака, Урад замераўся падыйсьці, калі гэтак сказаць можна, хірургічна, даволі проста, з надзеяй загаіць усю справу голымі ваенна-паліцэйскімі мерамі.

Неспакой акраінны настолькі відочны, што ніводная здаровая галава не асудзіць момэнту гэткіх радыкальных адміністрацыйных мераў, аднак меры такія ня могуць у прававой рэспубліканскай дзяржаве мець характар пэрманэнтны, лячэньне акраінных хваробаў павінна пайсьці глыбей аж да самага іхняга караня.

Навет з боку гэткае консэрватыўнае польскае газэты, як віленскае „Słowo“ пачуўся ўжо голас аб недасканальнасьці выкананьня саусім разумнае задачы старцыць пры цэнтральных варшаўскіх уладах інстытуцыю, ў веданьні якое знаходзіліся-б нашыя краёвыя ці, па агульна-польскай тэрмінолёгіі, *крэсовыя* справы.

Утварэньне пасады ўсяго толькі віцэ-міністра пры Міністэрстве Унутраных Справаў, без рашучага голасу віцэ-міністра ў Радзе Міністраў, здаецца навет і польскім тутэйшым консэрватыстам справаю, якая нічога ня зьменіць і нічога ня будзе значыць.

Саусім рацыянальна прапракуюць паны польскія консэрватысты, што навет поўны голас *акраіннага* віцэ-міністра ўва Урадзе зьяўляўся-б толькі палавінчатым рашэньнем акраінных пытаньняў.

Ідэя цэнтралістычнага ўрадаваньня праваліласе сама сабою, дзе-ня-дзе ў Эўропе, як напрыклад у гэткай узорна прававаой парлямэнтарнай дзяржаве, як Велікабрытанія, даўшая Ірляндыі поўныя правы самастойнасьці.

Найсьвяжэйшы прыклад банкруцтва цэнтралізму маем на Балканах, якраз у Югаславіі, дзе цэнтральны сэрбскі ўрад у Белградзе падрыхтаваў ужо абвешчаньне аўтаномнасьці Харватыі і Славоніі.

Аб гісторыі югаславянскага цэнтралізму, праводжанага да нядаўняга часу Пашычам, мы ўжо пісалі колькі тыдняў назад, калі Югаславянскі новы ўрад Давідовіча ступіў на шлях дэцэнтралізацыі.

Польскаму Ураду ў Варшаве можа й відней, як падыйсьці да гэтага-ж самага дэцэнтралістычнага прынцыпу адміністраваньня, але адно ясна, што так ці інакшай цьвёрда стаць на грунце дэцэнтралізацыі дзяржаўнае ўлады ў Польшчы даўно пара. Чым хутчэй, тым лепей, карысьней для самога здароўя польскае дзяржаўнасьці.

Магчыма, што стаўшы на сказаны грунт, трэба ісьці да мэты паступова крок за крокам, развага і халодная кроў ніколі ня шкодзіць. Ня шкодзіць і *часовая* цьвёрдасьць улады ў над'звычайных яе формах дзеля утварэньня спакойнае атмосфэры, ў якой толькі й магчыма вытварэньне новага курсу ўнутранае палітыкі, новых адміністрацыйных формаў. Аднак нельга заходзіць далёка шляхам ваенна-паліцэйскіх мераў, каб ня было, барані Божа, *поўнага ўхіленьня ад абавязковых, як для грамадзянства, так і для ўлады, ненарушымых гарантыяў Дзяржаўнае Конституцыі.*

Мы ўжо заяўлялі і ня лічым за лішняе паўтарыцца, што ліквідацыя зьвішчаў, падобных да стаўпецката эпізоду, найхутчэй магчыма сіламі самога насяленьня, якое поўна-ж павінна адтрымаць права і аснову ня лічыць Польскую Рэспубліку мачахаю ў адносінах да сябе.

Ня трэба ніколі запамінаць, што, дзякуючы няшчаснаму Рыскаму падзелу, ў заходня-беларускім грамадзянстве заусёды будзе істнаваць тая ці іншая мерка параўнаньня тутэйшага нашага палажэньня з палажэньнем беларусаў на Усходзе.

Хітрая бальшавіцкая ўлада пайшла далёка ўперад і спрытна можа засыпаць вочы падуладнаму ёй насяленьню закладаньнем у Менску навет Беларускага Унівэрсытэту ды тыканьнем пальцамі ў наш бок, дзе беларускае насяленьне дарэмна дасюль стукалася ў дзьверы канцэлярыяў школьных інспэктароў, дабіваючыся свае роднае элемэнтарнае школкі.

Можа новы школьны год прынясе нейкія зьмены і ў нас, мо' воля насяленьня школьнымі ўладамі будзе, нарэшце, шанавацца і па меры магчымасьці задавальняцца, аднак-жа з быўшае дасюль школьнае песьні на акраінах — слова ня выкінеш.

Каб зьбіць козыры свайго ўсходняга конкурэнта, затрымаць яго ўплывы на беларускі рух у рамках яго бескантрольнага панаваньня, Польскі Урад павінен адважна прызнаць самы прынцып *тэрыторыяльнае аўтаноміі нашага краю,* праводзячы (можа й пакрысе) гэту аўтаномію ў жыцьцё ўсімі мясцовымі сіламі, аб'яднаўшы пры дружнай працы грамадзкія тутэйшыя сілы ўсіх нацыянальнасьцяў. Пры працы ступеецца дзікі нацыянальны антагонізм, пачнецца сьветлая эра нацыянальнага паразуменьня і культурнай творчасьці. А калі гэты момэнт набярэ патрэбнай жыцьцёвай моцы, дык і зьнікне агідны раскладальны бандытызм якога-б ні было паходжаньня.

Трэба каб акраіннае насяленьне мела *свае унутраныя справы,* ад якіх адмовіца яно ня мае ніякага права, ніякага сэнсу.

Гэткі нам рысуецца выхад з палажэньня, якое ўсімі разам і кожным паасобку прызнаецца ненармальным.

І калі стварэньне акраіннага віцэ-міністэрства ў Варшаве зьяўляецца першым урадовым крокам па шляху да гэтага выхаду, дык, спатыкаючы яго, беларусы могуць уздыхнуць спакойна.

---

## Палітычны агляд.

Бягучы тыдзень ад'значыўся рашучым змаганьнем нямецкіх рэспубліканцаў з манархістамі і камуністамі ў нямецкім Рэйхстагу, якое разыгралася на грунце проектаў законаў, зьвязаных з плянам Даўса, і кончылася няўдачай камуністаў. Увесь плян Даўса складаецца, як ведама, з трох частак: проект эмісіоннага банку, прамысловых аблігацыяў і міжнароднага загаду нямецкімі чыгункамі. Рэйстаг кожны з гэтых проектаў галасаваў паасобна, пры гэтым на першыя два патрэбна была звычайная большасьць галасоў, а на проект аб чыгунках патрэбна было дзьве трэці галасоў. З нарадаў канцлера з прадстаўнікамі партыяў ужо высьнілася, што чугуначны проект не атрымае патрэбных двох трэцых галасоў, дзеля таго што камуністы і нацыяналісты, ня гледзячы на ўсе намовы, на дамаганьні прамысловцаў окупаваных зямель, каб прыняць лёнданскі дагавор, і ўрэшце на пагрозу ўраду разагнаць рэйхстаг, катэгарычна адмовіліся галасаваць за прыняцьце закону. Але мала таго: камуністы праз увесь тыдзень рабілі ў Рэйхстагу абструкцыю, перашкаджаючы ў парлямэнцкай рабоце. У сераду дайшло да вялізнай бойкі між камуністамі і манархістамі з аднаго боку і дэмакратамі з цэнтрам—з другога. Кончылася тым, што старшыня Рэйхстагу загадаў, каб сілай вывелі з паседжаньня трох камуністаў, якія не хацелі выйсьці дабравольна.

Гэткім чынам нямецкія камуністы і манархісты, ня йдучы ўвесь час на кампраміс з рэспубліканскімі партыямі, псавалі толькі рэспубліканцам работу, скіраваную да згоды з саюзьнікамі і аздараўленьня фінансава-эканамічных адносін. Але гэтай перамогай у Рэйхстагу яны падгатоўвалі сабе няўдачу на будучых выбарах. Рэспубліканцы чуюцца цяпер мацнейшымі, чымся раней. Сац.-дэмакраты праз увесь час дамагаліся, каб гэты Рэйхстаг, выбраны ў часы самага цяжкага эканамічнага крызысу ў Намеччыне, быў распушчаны і каб былі назначаны новыя выбары. Камуністы і нацыяналісты сваімі паступкамі толькі памаглі соц.-дэмакратам, якія маюць вялікую надзею на ўдачу ў час новых выбараў, тым больш, што канцлер рашуча

заявіў, што калі толькі закон Даўса правaліцца, дык Рэйхстаг як-га будзе распушчаны і будуць зроблены новыя выбары. Урад і прэзыдэнт рэспублікі пастанавілі выкарыстаць усе парлямэнцкія і канстытуцыйныя способы, якія толькі ёсьць у іх, каб правесьці ў жыцьцё плян экспэртаў. Што датычыцца лёнданскага дагавору, дык ён будзе падпісаны 30 жніўня на аснове паўнамоччаў, дадзеных дэлегацыі нямецкім прэзыдэнтам.

Бачачы гэты вынікі, нямецкім нацыяналістам прышлося галасаваць за ўсе законы Дауса бо, ў праціўным выпадку, урад распусьціў-бы рэйхстаг і абвясьціў-бы новыя выбары, на якіх яны пацярпелі-б поўнае паражэньне. Дзеля гэтага на апошнім рашучым галасаваньні, пасьля трэцьцяга разу чытаньня законаў Дауса нацыяналісты неспадзявана падалі свае галасы за чугуначны закон, які патрэбуе $^2/_3$ галасоў. У той час як закон аб утварэньні эмісійнага банку праходзіць 250 галасамі процi 172. Закон аб ліквідацыі рэнт-банку праходзіць 262 галасамі процi 172; Закон аб прамысловых аблігацыях 256 гол. процi 175, чугуначны закон, які трэбуе $^2/_3$ галасоў на нямецкай конституцыі, прымаецца $^3/_4$ галасамі процi 127, дзякуючы нацыяналістам. Такім чынам, здаровы розум перамог у нацыяналістаў пачуцьцё шавінізму.

Другой важнай палітычнай падзеяй апошніх дзён ёсьць дыплёматычны канфлікт між Англіяй ды Сав. Расеяй. Гэта тым болей цікаўна, што бальшавікі ўсе свае пляны будуюць на Англіі, асабліва пасьля падпісаньня гарговага дагавору. Прычынай канфлікту было гэткае здарэньне: савецкі ўрад акружыў ангельскага пасла ў Лёндане (хіба ў Маскве?! *Перакл.)* сеткай шпіонаў і сочыць за кожным яго рухам. Не дае магчымасьці гаварыць па тэлефону, арыштоўвае і робіць усялякія прыкрасьці асобам, якія заходзяць у ангельскае пасольства і г. п. Макдональд выслаў да савецкага ўраду ноту, ў якой катэгорычна заяўляе, што калі толькі савец. ўрад не перастане гэтак рабіць і не пера просіць, дык ангельскі ўрад пазбавіць савецкага пасла ў Лёндане дыплёматычнай нечапаемасьці ды перад дзьвярыма савецкага пасольства паставіць паліцэйскага ўрадніка, які будзе правяраць усіх, хто будзе туды ўваходзіць і выходзіць адтуль. А здарэньне ў Бэрліне паказала, якая публіка заходзіць у савецкія дыплёматычныя прадстаўніцтвы заграніцай. Гэта „ячэйкі" заграні̇чнай камуністычнай прапаганды. Там перахоўваецца агітацыйная літэратура.

Дзеля гэтага такая пагроза ангельскага ўраду крыху ахаладзіла савецкіх дыктатараў, хаця ўсё роўна нічога не пераменіць у іхняй тактыцы. Гэтае здарэньне толькі яшчэ раз даказвае, што ня можа быць ніякае гутаркі аб нармальных адносінах з маскоўскімі чырвонымі катамі, каторыя ў 1917 годзе ўварваліся ў ангельскае пасольства ў Петраградзе і забілі там ангельскага афіцэра, а консуля маскоўскага арыштавалі. Калі яны гэтак паступаюць з паслом першай сусьветнай дзяржавы, у якой хочуць зрабіць грашовую пазычку, дык што казаць аб адносінах да тых дзяржаў, якіх яны не баяцца і ў якіх яны менш зацікаўлены. Гэта ляпей за ўсіх адчувае на сабе Польшча.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

— Міністэрства вайсковых справаў выдала загад аб закрыцьці усіх пагранічных пунктаў, гдзе адбываўся тавараабмен. Бо заўважана, што на гэтых пунктах найбольш пераходзілі граніцу падазронныя асобы. Застаюцца толькі некалькі так званых, „сталых" пунктаў, гдзе лягчэй праводзіць кантроль асобаў, пераходзячых граніцу.

— 29-га гэтага жніўня прынята адстаўка Дэлегата Ураду ў Вільні п. В. Романа. Гэткім чынам затрымалася справа утварэньня новага віцэ-міністэрства для акраінных справаў. Рэшта назначэньняў высьніцца пасьля павароту прэм'ера Грабскага са Спалы.

— У сувязі з адкрыцьцем усходніх таргоў, 4-га верасьня ўвечары выяжджае ў Львоў п. Прэзыдэнт Рэспублікі і Урад.

— 28-га жніўня а 9 гадзіне раніцай прыехалі ў Варшаву польскія экспэрты, што былі арыштованы ў Расеі, п. п. Саханевіч і Станіслаўскі. У хуткім часе яны зложаць абшырную справаздачу аб сваім пабыце.

**За граніцай.**

— З **Парыжа** паведамляюць, што францускі ўрад пастанавіў палегчыць Польшчы рэалізацыю прызнаных ёй раней крэдытаў.

— Тэлеграфуюць з Парыжа, што польскі міністар заграничных справаў меў доўгую нараду з францускім прэм'ерам Эрыо аб справах, якія будуць разглядацца сабраньнем Лігі Народаў. У пятніцу ўвечары п. Скржынскі выехаў у Жэнэву.

— З **Бэрліна** тэлеграфуюць, што **нямецкі парлямэнт прыняў** у падробнай дыскусіі ўсе законы Давіса процi галасоў нацыяналь-соцыялістаў, нацыяналістаў і камуністаў. Вотум недаверыя ўраду Маркса **адкінены** 251 голасам процi 94 пры 83, якія ад галасаваньня стрымаліся.

— Паводлуг вестак з **Літвы**, ў Шаўлях адбыўся зьезд кіраўнікоў нацыянальна-лібэральнай партыі і сяброў партыі „Пажанга". На зьездзе былі таксама вядомыя дзеячы А. Смэтона і праф. Вальдэмарас. Зьезд меў на мэце тактыку пры выбарах да самаўрадаў. У сувязі з гэтым пачала выхадзіць новая штодзенная газэта „Respublikos gerowe".

— Паводлуг вестак з Рыгі, рабочыя ленінградзкага порту абвясьцілі гэнэральную забастоўку. Улада абвясьціла выняткoвае палажэньне.

— Ангельская прэса піша, што апошнім часам адбываліся ў **Парыжы** поўафіцыяльныя **франка-савецкія перагаворы.**

— Ангельскія капіталісты арганізованна пачынаюць протэставаць процi магчымасьці пазычкі саветам.

— У **Даніі** прыняты радаю міністраў проект ваеннага міністра аб раззбраеньні.

— Як паведамляюць з Бэрну, у верасьнёвай сэсіі Лігі Народаў возьме удзел Амэрыка, хаця праўда што неофіцыяльна.

— У **Кітайшчыне** пачалася хатняя вайна. Чугуначная лінія Шанхай-Нанкін перарвала функцыі. У Шанхаі высадзіліся аддзелы амэрыканскага флёту.

— Варшаўская прэса падае вестку аб арыштаваньні ў Расеі Барыса Савінкова, вядомага антыбальшавіцкага дзеяча сярод расейскае эміграцыі.

— Ваенныя ўлады **Эстоніі** выслалі апошнімі часамі рад афіцэраў у Францыю дзеля вышкаленьня.

— Літоўская прэса паведамляе, што **Румынія** прызнала **Літву de jure.** У найбліжэйшым часе паміж гэтымі дзяржавамі маюць быць нарыхтованымі дыплёматычныя зносіны.

— Паводлуг паведамленьняў з **Італіі** прэм'ер-міністар Мусоліні пастанавіў быць на сэсіі Лігі Народаў і выяжджае ў Жэнэву 3-га верасьня.

— Румынскае міністэрства вайсковых справаў паведамляе, што на лініі Днестра чырвоная армія будуе фортыфікацыю.

— **Румынія** й **Югаславія** ня згодны прыняць проекту камісіі Лігі Народаў аб раззбраеньні.

— З Загрэбы паведамляюць, што там зьявіцца распараджэньне **югаслаўянскага** ўраду аб аўтаноміі **Харватыі і Славоніі.**

# ТЫПЫ ПАЛЕСЬСЯ

*(Глядзі № 17 „Грам. Голасу").*

— Што за птушка зірнула на мяне? — думалася яму. — Адкуль у яе такое яснае вока, што нават у вачох пацямнела ў мяне, — меркаваў ён і, падняўшы галаву, пачаў шукаць птушкі з ясным вокам. Доўга хадзіў ён, выглядаючы, ці не знайдзе дзе цікавай птушкі. Дарэмна клікалі яго ўсе зьвяры і птушкі, дарэмна звалі кінуць шукаць туае птушкі. Ня мог супакоіцца Сьвет. Усё хадзіў па лесе ды шукаў...

Вось, нарэшце, калі зноў загуляў вецер па вярхох дрэваў, угледзіў Сьвет яснае вока птушкі... Застукацела яго сэрца моцна ў грудзёх. Затаіў дух Сьвет і ціха пачаў падходзіць да цікавай птушкі. Здаецца яму, што сядзіць яна на высокай, высокай елцы, на самай апошняй галіне. Ня вытрымаў Сьвет і палез... Вось ён ужо на самай вяршынцы... Хістаецца елка, гнуцца пад ім галіны... Але ня бачыць гэтага Сьвет. Асьляпіла яго саўсім ясная птушка. Здаецца яму, што пераляцела яна на другую вышэйшую елку. Выцягнуў да яе Сьвет рукі, пасьлізнуўся і грымнуў у дол. Ляцеў Сьвет у дол і здавалася яму, што птушка ўжо вось-вось у яго ў руках. Разьбіўся Сьвет аб карэньні дрэваў, ляжаў у доле няжывы. Прыйшлі зьвяры, зьляцеліся птушкі наўкола яго. А ён ляжаў, ляжаў з расплюшчанымі вачыма, з усьмешкай радасьці на вуснах... А ў вачох яго ігралі праменьні далёкага сонца. Гэтак зьгінуў Сьвет, шукаючы Сонца.

XVI.

**Раніца.**

Доўга ляжаў я з расплюшчанымі вачыма і ня мог заснуць. Ночка ўжо панавала над лесам. Сьвяцілі зоркі, ўзыходзіў месячык на неба. Дык, вось, яка легэнда пра Сьвета, якую я марыў учуць даўно. Ганчар і Караба смачна спалі, хутка і я заснуў...

Лёгкі туман пакрываў палянку, калі мяне разбудзіў голас Ганчара.

— Уставайце, сябра, сьнедаць! Караба ўжо яду дабыў!

Я расплюшчыў вочы.

Караба сядзеў накарачках і смажыў нейкую птушку на вуглёх. Я хутка ўскочыў на ногі. Халадок трохі прабіраў.

— Вось тутака, недалёка, ёсь крыніца, — паказаў мне Ганчар у бок лесу. — Ля асіны! — крыкнуў ён мне ўсьлед.

У лесе пачынала прачыхацца жыцьцё то там, то тутака недзе над маей галавою пачыналі варушыцца ў сваіх гнездах птушкі. Вось і асіна. Праўда, з-пад яе карэньняў выбягаў маленькі ручайчык і некім была зроблена ямка, каб балей было вады. Добра было памыцца халоднай вадою. Адразу зрабілася нейак лёгка і добра. Недзе здалёку крычалі жоравы і гусі. Туман пачаў гінуць, нарэшце, саўсім згінуў, адплыў кудысь у гушчар лесу. Я падайшоў да сяброў.

— Вось! гатова качка! — весела гаманіў Караба.

— Сядайце! — казаў ён. — Эх, добра раніцай у лесе! — сказаў Ганчар.

— Ну! — падміргнуў адным вокам Караба Ганчару. — Давай, сябра, свайго зельля!

— А! — ўспомніў той і праз мінюту мы выпілі па дзьве чаркі добрага самагону.

— Гэта, — казаў Караба, — каб было лепей нам сёньня дайсьці да трох крыжоў.

— Што за крыжы? — запытаў я.

— А, вось, самі пабачыце, як дайдзём да іх, — сказаў Караба.

Добра пасьнедаўшы, мы, загасіўшы рэштку агнішча, крануліся ў дарогу.

XVII.

**Старая канава.**

Як толькі сонца праменьні зайгралі на кроплях брылянцістай расы, дык адразу падняўся цэлы канцэрт лясных птушак на розныя лады.

Ганчар ішоў наперадзе нас, зьняўшы шапку. Відаць была, што ён слухаў песьні птушак і цешыўся з сонца разам з імі.

Мы йшлі берагам старое канавы... Усё дно канавы было заросшы асакою і сітнягом, па якім лёгкі ветрык гнаў перад намі хвалю за хваляй. Часамі, з яго зашамацеўшы вылятaлі качкі, з крыкам нясьліся ў даль канавы, шлёпалі ў нявідную ваду, зноў зрываліся, зноў падалі. Ні я, ні Ганчар з Карабой ня думалі страляць. А Ганчар нават раззлаваўся, што качкі ўцякалі ад аго ў такі малітвенны яго настрой, калі нават ён запомніў, што за плячмі у яго вісіць стрэльба. Часамі, галіны асін, вольхаў і бяроз так моцна перапляталіся над канавай з абодвух яе берагоў, што ня было відаць неба.

**Дзяргач.**

*(Працяг будзе).*

— Маскоўскія газэты друкуюць рэзалюцыю V конгрэсу 3-га Інтэрнацыяналу аб народах Цэнтральнае Эўропы і Балканах. Рэзалюцыя кажа, што Польшча, Чехаславакія, Югаславія, Румынія і Грэцыя зьяўляюцца месцамі нацыянальнага гнёту. Лёзунг самаазначэньня народаў павінен ў гэтых дзяржавах абярнуцца ў лёзунг дзяржаўнага выдзяленьня народаў, якія прыгнятаюцца на тэрыторыях Польшчы, Чэхаславакіі, Югаславіі, Румыніі, і Грэцыі. Пацьвярджаючы рост антысэмітызму ў Польшчы, Румыніі і Вэнгрыі конгрэс заклікае камун. партыі гэтых краёў энэргічна бароцца з антысэмітызмам. **У беларускім пытаньні конгрэс стаў на прынцыпе аб'яднаньня разрозьненых беларускіх земляў у адну савецкую рэспубліку, што было запрапанована польскаю камуністычнаю партыяю;** аднача сна падкрэсьліваюцца ўдачныя рэзультаты працы гэтае партыі ў польскай часьці Беларусі, якія выказаліся ў пакарэньні уплывам кам. партыі ўсяго сялянства ўсходн. акраін Польшчы.

Лоўкая дыплёматыя!

# Агляд прэсы.

П. Cat — перадавік з віленскага консэрватыўнага „Słowa" — ў артыкуле „Апошнія назначэньні" піша:

> Назначэньне п. Валерага Романа 2-гім віцэ-міністрам унутраных справаў з тэю відочнаю думкаю, што функцыі быўш. Дэлегата ураду на Віленскую зямлю будуць звязаны з пытаньнямі Усходніх Земляў — мусім назваць палавінчатым рашэньнем жаданьня, што гэтак даўно выказвалася рознымі кругамі польскага насяленьня на Усходзе.
>
> Мы фармулавалі утварэньне спэцыяльнага віцэ-міністэрства пры прэзыдыуме міністраў, маючы на ўвазе:
>
> Перелом цэнтралістычнага прынцыпу пры адміністраваньні польскаю дзяржаваю. Гэты прынцып, якога гарачым аполёгэтам на заранцы польскае дзяржавы быў п. Войцехоўскі, цяперашні Прэзыдэнт Рэспублікі, — з кожным днём ўсё больш і больш траціць павагу. Гэта-ж цэнтралістычныя польскія ўрады даходзілі да забаўнае прэцызіі ў тварэньні сваіх папяровых прадпісаньняў. Паліцэйскі загад аб ежджаньні правым бокам у пэўнай далечыні ад прыдарожнага рова — вельмі карысны ў ваколіцах Катавіцаў — вельмі траціць у сваім значэньні ў некаторых закутках нашага краю (dzielnicy), дзе ёсьць крыху йнакшыя равы ды йнакшыя дарогі. Стварэньне асобнае інстытуцыі віцэміністра Усходніх Земляў здавалася нам першым крокам да пераломy названага цэнтралістычнага прынцыпу, які калечыць цэлы наш адміністрацыйны лад і абяртае ў нішто натугі адзінак.
>
> Спэцыяльныя варункі Усходніх Земляў робяць тое, што цэлы рад законаў, распараджэньняў і адміністрацыйных актаў, ня маючы ў Каралеўстве ніякага палітычнага значэньня, ў нас гэткае значэньне прымае. Далей—пэўныя распараджэньні, якія Варшаве здаюцца хутчэй за ўсё фармальнымі, ў нас прымаюць саўсім адваротны характар. Прыпомнім сабе хоць-бы няшчасную календарную рэформу, якая выклікала ў нас абсолютна фатальнае ўражаньне . . .

Пераходзячы да ролі віцэ-міністра ці праўдзівай яго компэтэнцыі, паваж. аўтор заяўляе, што:

> . . . наколькі п. Роман ня будзе мець голасу ў Радзе Міністраў, калі ня будзе мець уплыву на зьмест урадовых распараджэньняў, альбо права крытыкі іх пад кутом гледжаньня інтарэсаў Усх. Земл.—дык яго назначэньне ня будзе ўжо палавінчатым рашэньнем, але проста ня будзе мець ніякага значэньня. Што-ж нам з таго, што ў палацы Замойскіх прыбудзе адзін вураднік, „знаючы крэсовыя адносіны". Гэта-ж і дасюль было іх там поўна, — ды ня мела гэта ніякага ўплыву на палепшаньне нашых адносін.
>
> . . . Майма надзею, што ўдасца нашаму быўш. Дэлегату выгаварыць дзеля свае асобы і для нашых інтарэсаў куды шырэйшыя компэтэнцыі, чымся пасрэдніцкая інстанцыя паміж усходнімі ваяводамі і міністрам унутраных справаў . . .
>
> Пан Роман едзе ў Варшаву не на вураднiцкае падвышэньне, але як прадстаўнік інтарэсаў і жаданьняў тутэйшага насяленьня. Прынамсі, гэтага мы спадзяёмся . . .

Аддаўшы найбольш увагі назначэньню п. Романа, аўтор пераходзіць да асобы таго, хто займе, пакіненае ім месца — да назначэньня ў Вільню Дэлегатам Ураду п. Уладыслава Рачкевіча, і коратка, паміж іншым, зазначае:

> Пан Рачкевіч вытрываў найгоршыя гады на найцяжэйшым пасту і бараніў інтарэсы свайго ваяводзтва са шчырасьцю і адвагай. Таксама шчыра вітаем яго ў Вільні. Ен зразумее культурнае значэньне, якое мае Вільня, найбольшае вогнішча польскае культуры на поўначы, і абавязак *promieniowania* гэтае культуры.

Аб новым наваградзкім ваяводзе, назначаным замест пана Рачкевіча, чытаем:

> Гэнэрал Жэгота-Янушайціс (прозьвішча саўсім тутэйшае!—*Рэд.*) назначаны за наваградзкага ваяводу. Гэтае назначэньне зьяўляецца першаю праўдзіваю перасьцярогаю, зьверненаю па адрэсе Саветаў. Граніцы Навагр. ваяводзтва будзе бараніць адзін з найадважнейшых польскіх жаўнераў.

---

Бэрлінскі „Руль" у заметцы „Положеніе русскихъ въ Польшѣ" перадае гутарку супрацоўніка „Руспрэса" з адзіным прадстаўніком расейцаў ў Сойме, паслом Сярэбранікавым, маючым досіць арыгінальны пагляд на некаторыя рэчы:

> — Справа ў тым, — казаў, паміж іншым п. Сярэбранікаў, — што колькасьць рускіх у Польшчы далёка ня нікчэмная (!) — я кажу, пэўна-ж толькі аб польскіх грамадзянах расейскае нацыянальнасьці і каранным насяленьні ўсходніх акраін. Калі ў Сойме я — адзіны прадстаўнік *русскаго* насяленьня, дык выходзіць гэта, перш за ўсё, ад таго, што на ўсходніх акраінах Польшчы пытаньне аб праве польскага грамадзянства дасюль фактычна не ўрэгулёвана. Польская адміністрацыя дасюль стаіць на тым пункце гледжаньня, што ў Польшчы ёсьць украінцы і беларусы, але няма *русскихъ*. Калі казаць аб нацыянальным складзе насяленьня на ўсіх акраінах Польшчы на азнаках „*его собственнаго волеизъявленія*", дык прыдзецца прызнаць, што *русскіе* складаюць у праваслаўным насяленьні Польшчы значную часьць . . .

Ня маючы нічога проці польскіх велікаросаў, мы ўсё-ж такі не разумеем крыху застарэлае тэндэнцыі п. пасла Сярэбранікава: праваслаўны — значыцца *русскій*, ці нешта ў родзе прыказкі — „Іван Кузьме родны Тодар".

Так, пане пасол, гэта некалі было, але назаўсёды мінула; зьмянілася, нарэшце, і само „*собственное* волеизъявленіе".

# Над'звычайны суд аб нападзе на Стоўпцы.

Судовы працэс устанавіў яшчэ раз, што ўвесь напад арганізованы быў Саветамі. Абвінавачаныя Пётра Іода, Мікалай Гарачка і Адварды Карчмарчык (мянюшка Стапінскі) засуджаны на кару сьмерці праз расстрэл. П. Прэзыдэнт Рэспублікі скарыстаў з права ласкі датычна Іоды. Рэшта—два бандыты казьнены. Сьледзтва ўстанавіла, што Іода ня браў удзелу ў забойствах, будучы толькі вартаўніком. Паказаньнем Іоды устаноўлена, што перад нападам на Стоўпцы дывэрсыйны аддзел быў спэцыяльна муштрованы у Менску 3 месяцы пад кіраўніцтвам інструктароў, насіўшых абмундзераваньне афіцароў чырвонае арміі і пад іхняй камандаю перайшоў цераз граніцу, будучы надзеленым кулямётамі, піраксылінам, ручнымі гранатамі, стрэльбамі і рэвальвэрамі. Бандытам быў даны загад,

---

# Аб сучасным стане беларускага мастацтва

## (КУЛЬТУРНЫЯ АГУЛЫ).

*(Глядзі № 14 і 16 „Грам. Голасу").*

III.

Зрабіўшы ў часьці І-ай нашага артыкулу *падсумоўку культурных здабыткаў* Беларускага Народу *у краіне мастацтва*, як мы бачылі *ня вельмі значных*, мы стараліся ў яго ІІ-гой частцы выявіць *прычыны* гэтага сумнага зьявішча, з якіх *галоўнай аказалася рэнэгацтва беларускага шляхоцтва*. Вось-жа цяпер, у закончаньне нашых разважаньняў на гэту тэму, высьнім яшчэ адно пытаньне, цесна з гэтай тэмай зьвязанае, іменна — *што нам рабіць?*

Так! што нам, Беларусам, трэба рабіць для таго, каб памагчы роднаму мастацтву, каб прыслужыцца да ягонага разьвіцьця, каб зрабіць гэнае разьвіцьцё хутчэйшым, больш удачным?..

Бяссумліўна *розныя мастацкія школы ды установы Польшчы і Маскоўшчыны, ў якіх*, побач з іншымі, дзякуючы нястачы, пакуль што, ўласных, гэткага роду інстытуцыяў,—*вывучаюцца і прадстаўнікі беларускай, падчас нат' сьвядомай, моладзі, будуць выпушчаць* штогодна пэўную колькасьць *Беларусаў — мастакоў* ўсялякага роду, якія патрапяць узбагаціць родную ніву, — але гэны факт, зразумела, ня вычэрпавае зусім пытаньня і не паказвае на тыя *заданьні*, якія, ў зьвязку з ім, стаяць перад *мысьлячым* агулам беларускага грамадзянства.

А *заданьні гэныя* надта-ж удзячныя і цікаўныя і, *побач з перакладамі на беларускую мову*, зьяўляюцца *пярвейшым моральным абавязкам беларускае інтэлігэнцыі!* Рэч у тым, што *дзеля правільнае ацэнкі нашае культурнае моцы* трэба, колькі мага, падрабязна і старанліва *падлічыць* нашыя шматлікія *культурныя ўтраты* на даўгім гістарычным шляху — некалькі стагодзьдзяў трываючага, дзяржаўнага сужыцьця з Польшчай, дый сту з лішкаю гадоў пад Маскоўшчынай.

Гэныя *ўтраты* нашыя найлепш патрапім сабе ўявіць *шляхам элімінацыі* з польскае і маскоўскае гісторыі *ўсенькіх Беларусаў з паходжаньня*, прадстаўнікоў здэнацыяналізованых беларускіх шляхоцкіх або мяшчанскіх сфэраў, *якія адз'начыліся* тамака *сваею талентнасьцяй ці здольнасьцямі*.

Элімінацыя гэная (адборка) мусіць быць колькі мага, *дэтальнай* і павінна ахапіць *ўсе*, якія толькі ёсьць, галіны дзяржаўнага, грамадзкага і ўсякага іншага жыцьця Польшчы ды Маскоўшчыны. Асабліва-ж трэба зьвярнуць увагу на краіны: літэратуры і мастацтва, навукі (ўва ўсіх яе галінах), рэлігіі, палітыкі і дыплёматыі, адміністрацыі (ўлада, ўрады і г. д.), ды ваенную.

Найбольш матар'ялу дасьць, зразумела, Польшча, дзякуючы, *шмат даўжэйшаму* чымся з Расеяй, нашаму сужыцьцю з ёй.

Дзеля гэнага нашу *sui generis* „рэвіндыкацыю" Беларусаў трэба пачынаць з гэтага боку.

Ад'значым тут, *мімаходам*, што калі-б мы гэную нашу культурную „рэвіндыкацыю" расьцягнулі і на украінцаў, чэхаў ды немцаў *у Польшчы*, ды на больш чым „дванадзесяць язык" яе „інародцаў", *у Расеі*,—дык дайшлі-б да прам-ткі *прыгаломшаваючых* рэзультатаў, гэтак-бо *вялікай* аказалася-б тая *роля*, якую з'igралі (ды граюць, хоць і ў меншым разьмеры, далей), памянёныя грамадзяне „другой (а няраз трэйцяй і чацьвёртай) катэгорыі ў культурным будаўніцтве і дзяржаўным жыцьці—гэных двох *вялікіх* народаў!..

Але зьвернемся да нашае тэмы! Вось-жа, прад намі ўстае пытаньне якім спосабам магчыма *практычна* зьдзейсніць проектованую намі *адборку*, *загубленых беларусаў?* Заданьне гэнае ня гэтулькі труднае, як-бы магло здавацца, і дзеля выкананьня яго патрэбна перш за ўсё *добрая воля* і *пачуцьцё абавязку* перад сваею Бацькаўшчынаю!

Ласьне трэба ўважна пераглядзець адумысныя кніжкі ды падручнікі (напрыклад: палітычную гісторыю абедзьвюх дзяржаваў, гісторыю іхняе літэратуры, мастацтва, ваяўніцтва, розныя біяграфіі і г. п.) дый старанна павыбіраць з іх увесь датычачы матар'ял, аб гэткіх адзінках, вядучы досьледы і сыстэматызуючы працу паводлуг гэткіх больш-менш рубрык: 1) скуль паходжаньнем (ён сам, або ягоны род)? 2) ў якім пакаленьні дэнацыяналізаваўся (перастаў карыстацца роднай мовай)?; 3) адносіны яго (прыватныя і афіцыяльныя) да беларушчыны? і 4) беларускія матывы ў яго творчасьці? Як бачым праца гэная *чыста — культурная!*

Праца, якраз для студэнтаў, якія павінны ўзяцца першымі за яе, а побач з імі пайдуць і іншыя (асабліва пажаданым было-б, каб гэным зацікавіліся беларускія вучыцялі, што ў сучасны момант, седзячы без работы, маюць больш часу).

Вось-жа да гэнае культурнае працы, як і да перакладаў на беларускую мову заклікаем горача нашу беларускую інтэлігэнцыю, зьвяртаючы ўвагу яе на той *бяссумліўны факт*, што кожная выдрукаваная па беларуску кніжка, кожны малюнак, ці музычны твор, больш набліжаюць да нас шчасьлівую будучыну, чымся цэлыя купы „мэморыялаў" і г. п., і што, йдучы гэным шляхам, бадай што найпэўней, паводлуг слоў нашага гэніяльнага песьняра *Бацькаўшчына - Беларусь* займець „свой пачэсны пасад між Славянамі!".

**Язэп Сьветазар.**

*(Канец).*

каб у першую чаргу забіралі розныя ўрадовыя дакумэнты, тэлеграфныя й тэлефонныя прылады. Сябры дывэрсыйных аддзелаў муштруюцца ў спэцыяльных установах, якія ўтрымлівае бальшавіцкі ўрад, там яны дастаюць ня толькі вайсковае вышкаленьне, але адначасна вучацца на камуністычных агітатараў. Лекцыі вядуць вайсковыя інструктары. Падчас навукі яны дастаюць пэнсію. З паказаньняў засуджаных відаць, што плян нападу на Стоўпцы загадзя быў апрацованы. Банда сабралася ў Менску, ў памешканьні на Малой-Мясьніцкай вуліцы, скуль яе перанясьлі на Падгорную вуліцу, дзе знаходзіўся штаб „Запфронта". Чуць-сьвет на чаролны дзень заехалі туды два цяжкія самаходы з савецкімі ад'знакамі, на якія пакладзена была зброя й амуніцыя, а таксама селі й сябры дывэрсыйнае банды. Разам з імі селі на самаходы бальшавіцкія афіцэры. Самаходамі завязьлі іх у лясы пад Койданавам. Тут ім раздалі зброю, а амуніцыю й кулямёты перавязьлі фурманкамі на хутар, які знаходзіцца недалёка ад граніцы, дзе раздалі бандытам амуніцыю. У хутары гэтым былі ўжо праваднікі. На чародны дзень а 6 гадз. ўвечары падзялілі бандытаў на тры аддзелы і павялі за граніцу. Савецкія афіцэры пераапрануліся ў цывільную вопратку. Пры пераходзе граніцы не спаткалі ніякіх пастоў пагранічнае варты а ні з савецкага, а ні з польскага боку. У трох аддзелах было каля 42-х чалавек. Спачатку лясамі, а затым чугуначнай лініяй пайшлі да м. Стоўпцаў. Прыбыўшы на месца, адзін аддзел адразу вырушыў на чугуначную станцыю, а іншыя два затрымаліся на могілках. Пасьля кароткага адпачынку адзін з аддзелаў атакаваў вастрог, а, выпусьціўшы арыштованых, пачаў грабіць склады. Трэці аддзел атакаваў старастваа. Уся дывэрсыйная акцыя цягнулася каля 3-х гадзін, пасьля кожны аддзел паасобна з нагладзенымі вазамі пакінуў места. Абвінавачаныя заяўлялі, што іх прымусілі да удзелу ў нападзе.

## Новы бандыцкі напад.

Газэта „Robotnik" піша аб новым дывэрсыйным нападзе сав. бандытаў, які адбыўся ў Валынскім ваяводзтве ў ваколіцах Лохава. Банда была зложана з 15 бандытаў.

У рэзультаце нападу аказаўся забітым пастарункові Закржэўскі, а рэшта пастарунковых дашчэнту абабраны.

Пасьля гэтага амаль што не на ўсёй граніцы Валынскага Ваяводзтва адбыліся дробныя напады, ахвярамі якіх ужо былі жыхары вёсак.— 27-га жніўня прыбыў у Варшаву адзін з паліцыянтаў ранены падчас гэтых нападаў.

## У С.С.Р.Р.

### За што судзяць.

Найвышэйшы суд зацьвярдзіў пастанову маскоўскага суда, засудзіўшага інжынера Якобсона на сьмерць праз расстраляньньне. Пастанова ўжо прыведзена ў выкананьне.

Інж. Якобсон расстрэлены 12 жніўня г. г. Матывам такое пастановы суда было тое, што Якобсон нібыто паведаміў былых уласьнікаў руднікоў медзі, гдзе ён быў кіраўнікам аб тым, што руднікі гэтыя знаходзяцца ў страшэнна кепскім палажэньні.

### Перасяленьне галодных.

Сімбірскі губэрнскі камітэт даносіць у Маскву, што па берагох ракі Волгі сунуцца вялізарныя грамады галодных людзей з Саратаўскай губ. на поўнач. Калі іх пытаюцца куды яны ідуць, то адказаваюць, што перасяляюцца на Алтай.

### Чорныя сэрцы на сьцягох.

Маскоўская рада разглядала проект аб форме для жалобнага флягу.

Застанавіліся на проекце чорнага сэрца на чырвоным полі. Такі сьцяг ужо быў вывешаны на маскоўскіх дамох у час хаўтуроў тав. Ногіна.

### Што паляць.

З Петраграду даносяць, што студэнты петраградзкага Унівэрсытэту спалілі юдаістычную бібліятэку пры унівэрсытэце.

Загінула шмат каштоўных рэчаў, забраных яшчэ пры цару Мікалаю I з прыватных жыдоўскіх бібліятэкаў.

### 82% хворых на сухоты!

Паводлуг досьледаў школьнае камісіі пецярбурскага вокругу ў месьце 82% дзяцей школьнага веку хворыя на сухоты.

Тое-ж пацьвярджаюць статыстыкі профсаюзаў.

Паводлуг іхніх інфармацыяў, у Пецярбургу няма сям'і, ў якой ня было-б сухотніка.

## Навуковыя навіны.

### Вялізарны мэтэор.

**У пазамінулым тыдні, ў вячэрніх гадзінах зьявіўся над Бэрлінам мэтэор велічыні з месяц.**

Мэтэор апісаў аграмадную дугу па гарызонце і рассыпаўся над усходняй часткай гораду. Зьяўленьне мэтэору дало зразумелы повад для чутак, якія зацікавілі ўсё жыхарства. Шмат асобаў сабралася перад астранамічнай обсэрваторыяй, пытаючыся, якое значаньне мае гэны мэтэор, дзеля таго, што паміж натаўпам пашыралася чутка, быццам *гэта першы сыгнал з Марса*, пасьля якога пачнуцца іншыя, якія могуць быць небясьпечнымі для жыхароў Бэрліну.

### Знойдзенныя кнігі Ціта Лівія.

З Рыму падаюць, як неспраўджаную чутку, што нядаўна п. Марціно і прафесар Рыдэтто знайшлі, невядамыя дасюль, *кнігі рымскае гісторыі Лівія.*

Кнігі гэныя маюць быць выданы яшчэ ўвосень. Яны зьмяшчаюць у сабе бясцэнны навуковы матар'ял.

### Бомбы - аэропляны.

„Дэйлі Тэлэграф" даносіць, што францускім інжынерам удалося сканструаваць бомбу, якая мае выгляд невячічкага аэропляну і можа быць пры помачы хваляў электрычнасьці бяз дроту кірована ў якім хочаш напрамку і ўзарвацца ў пажаданым часе.

Дзеля таго, што бомба будзе рухацца без абслугі, дык можна будзе выпусьціць яе на вышыню, ў якой яна застанецца нявіднай.

### Новы патоп пагражае зямлі.

Бэльгійскі гэолёг, прафэсар Бэльлё, сьцьвярдзіў, на адбываючымся цяперака міжнародным конгрэсе прыродазнаўцаў у Леодыюм, што чалавецтву пагражае, ў недалёчкім магчыма часе, небясьпека новага патопу. Усе думаюць, кажа вучоны, што зямля толькі раз была затоплена.

Пагляд гэны — абмылковы.

Не адзіны раз, але трыццаць два разы была зьнішчана зямля катастрофаю патопу! Бо як толькі наша сонечная сыстэма ўваходзіла ў сфэру косьмічнае імглы, дык зараз-жа рабіўся патоп.

Акіяны залівалі контынэнты (зямлю) і ўся гэолёгічная будоўля зямлі зьмянялася.

Магчыма, што той кавалак грунту, які прызываем Эўропай, ляжаў калісьці ў Ціхім акіяне і падчас касьмічнае катастрофы быў высунены на сучаснае месца.

Падобная катастрофа можа спаткаць нашу зямлю ў бліжэйшых стагодзьдзях.

Так прарокуе бэльгійскі прафэсар, але ня ўсім прароканьням можна верыць.

## Жыцьцё провінцыі.

### Пісьмо у Рэдакцію.

Нам пішуць з вёскі Сычавіч, Радашкаўскае вол., Вялейскага павету:

„Грамадзяніне Рэдактару! Не адмоўце ў інтарэсах праўды і нашага спакою напісаць у Вашай газэце вось аб чым:

Хоць і позна дайшла да нас польская газэта з Вільні „Dziennik Wileński" (№ 190 за 22 гэтага жніўня), ў якой нейкі хітры брахун, падпісаўшыся трома літэрамі „*О—ес*" у артыкуле „Sprawa szkolna na kresach" піша, нібыто ў нашай вёсцы „есьць вучыцель нейкі Руць (Ruć), які паводлуг цьвярджэньня карэсп. „Dz. Wil.", *спачатку выкладаў у беларускай школе, але калі гэтая школа была зьліквідована*, п. Руць (?) *увайшоў у склад польскага настаўніцтва і быў высланы на дадатковыя курсы у Кракаў* і г. д. Сказаная карэспанденцыя ў далейшым маніць, нікога ня стыдаючыся, пра нашу вясковую школу, нібыто яна па мове і па духу расейская. Брахня даведзена да таго, што востры на слова карэспондэнт цьвярдзіць быццам дзеці нашай школы „zaczynając zwrotkę Roty nie od słów: *Nie damy ziemi skąd nasz ród*, lecz *nie damy ziemi skąd nasz Ruć*, робяць чуць не антыдзяржаўнае праступленьне.

З прычыны ўсяе гэтае маны і брахні, што муціць спакойнае жыцьцё нашага кутка, просім падаць да агульнага ведама, што ніякі п. Руць ніколі ня быў вучыцелем у Сычавіцкай школе, а вучыць у нашай школе саўсім іншая асоба, якая працуе на гэтым месцы ўшо шмат гадоў. Праўда, што з нашай вёскі выйшаў народны вучыцель *Рудзь* Сьцяпан, які служыць настаўнікам у іншым месцы, ня маючы ніякага дачыненьня да школы ў яго роднай вёсцы. Названы Рудзь ніколі ні на якія курсы ў Кракаў высыланы ня быў і, гэткім чынам, ад малога да вялікага ўсе байкі п. „*О—с'а*" зьяўляюцца злоснаю брахнёю Калі гэты панок думае, што ён піша праўду, дык няхай скажа адкрыта, хто ён такі; чаго-ж ён тоіцца? Мы пэўны, што гнюснаю брахнёю аб нашай школцы і нашых людзях займаецца нейкая нятутэйшая саўсім асоба.

**С—не.**

## Тутэйшая хроніка.

— **Беларускае Грамадзянскае Сабраньне.** 2-га верасьня а 6 гадзіне ўвечары адбудзецца паседжаньне рады старшыняў.

На павестцы дня: 1) справаздача прэзыдыуму 2), месячная справаздача, 3) даклады юрыдычнае, мэдыцынскае, аграномнае і інш. камісіяў аб працах, зробленых па выдавецтву календара на 1925 г. 4) даклад камісіі аб курсах Беларускае мовы, 5) аб выданьні Гісторыі Беларускага тэатру 6), аб асыгнаваньні грошай на штодзенную газэту, 7) аб зацьвярджэньні штату ўласных карэспандэнтаў „Грамадзкага Голасу" на провінцыі, 8) аб Беларускім прытулку для дзяцей, 9) разгляд заяваў і 10) бягучыя справы.

— **Фэст.** Сёньня а 10 гадзіне раніцы у Аляксандра-Неўскай царкве будзе адпраўлена літургія, пасьля якой адбудзецца ўрачыстае сьнеданьне ў чэсьць гадавога сьвята.

— **Рыба.** У вялікіх лужах, што істнуюць на Тарговай вуліцы ля пераходнага чугуначнага мосту завялася рыба-калюшка, якую малыя дзеці ловяць кошыкамі; мусі гарадзкі магістрат мае на мэце захаваць лужы на далей, для разьвядзеньня больш карыснай рыбы, каб ад гандлю ёю мець магчымасьць зрапараваць такі прываль Сьняговае вуліцы.

— **Языковыя законы.** У „Dz. Ustaw" абвешчаны нядаўна прыняты закон аб мовах меншасьцяў. Закон будзе мець моц з 1 кастрычніка 1924 г.

— **Новы павет.** З Міністэрства ўнутраных справаў прыслана у Дэлегатуру просьба жыхароў м. Шчучына аб выдзяленьні іх места з Лідзкага павету і утварэньні асобнага Шчучынскага павету.

— **Новы валасны падатак.** У дадатак уставу аб уводзе некаторых зьменаў у часовым урэгуляваньні камунальных фінансаў абвешчаных у „Dz. Ustaw" № 73 воласьці былога царскага забору маглі сабраць у другім палўгодзьдзі г. г. самастойны падатак з зямлі, будынкаў, крамаў і промыслаў.

Агульны лік гэтага падатку ня можа перавышаць фактычнага дэфіцыту валаснога бюд'жэту на 1924 г., а з другога боку ня можа быць вышэй ліку злотых, роўнага ліку ападаткованых дзесяцін, іначай кажучы, падатак будзе каля 1 злотага ад дзесяціны і будзе паніжацца, чыб болей будзе зьбірацца ад промыслу, гандлю і будынкаў.

Адначасна устаў гэты наказвае падатак зьбіраць у залежнасьці ад абшару воласьці, а калі ўжо быў пабраны, дык павінен залічвацца ў лік новага падатку.

**З чароднага тыдня наша газэта пачне выходзіць ТРЫ РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ. Нумары „Грамадзкага Голасу" маюць зьяўляцца ў сьвет у сераду, пятніцу і нядзелю.**

Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: Язэп Салавей. Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.